# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1772) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 29 КРАСАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## Для росквіту нашай супольнай айчыны

(РАЗМОВА З КУРАТАРАМ ПЯТРОМ ЛІТЭРМУСАМ)

Аб патрэбе перамен у сістэме нашай асветы гаварылася ўжо даўно і нямала. І вось ёсць ужо першыя ластаўкі новага. Грамадству прадстаўлены для абмяркоўкі новы праект закона аб сістэме адукацыі для кансультацыі ў розных асяроддзях. Адначасова адбылася змена на пасадзе беластоцкага куратара. Ад 5 сакавіка куратарам асветы і выхавання ў Беластоку з'яўляецца Пётр Літэрмус, педагог з вялікай практыкай настаўніка і працаўніка асветных улад. З гэтай нагоды рэдакцыя звярнулася да новага куратара з некалькімі пытаннямі, якія, на нашу думку, могуць зацікавіць чытачоў.

*— Рэформа ў сістэме асветы трывала перманентна дзесяцігоддзямі. Ці новы закон аб сістэме адукацыі ў Польшчы, які прадстаўлены грамадству пад дыскусію, сапраўды зменіць наша школьніцтва на лепшае?*

— Праект новага закона стараецца ахапіць усе аспекты асветы ў адным дакуменце. Ён разглядае нашае школьніцтва ў трох плоскасцях: як сістэму адукацыі, як сістэму кіравання асветай, а таксама трактуе аб правах і абавязках настаўнікаў і працаўнікоў асветы, адмяняючы пры гэтым „Карту настаўніка", бо сам прымае на сябе трактоўку аб правах і абавязках настаўніка. Праект закона аб асвеце ўключае ў сябе таксама дэкрэт аб школьным абавязку.

Такім чынам новы закон уключае ў сябе ўсё, што датычыць асветы. Гэта вельмі добрая і ясная канцэпцыя: адзін закон, а ў ім усё неабходнае.

Праект закона прадбачае большую самастойнасць школ. Дае вялікія правы педагагічным радам і дырэктару школы. Зносяцца школьныя інспектараты пры мясцовых адміністрацыйных адзінках, а кіраванне школамі будзе адбывацца па простай лініі — міністр-куратар-дырэктар. Магчыма, што будзе створана яшчэ адно пасрэднае звяно (каб наблізіць школу да куратара) у былых павятовых гарадах. А пры гмінных самакіраваннях будуць утвораны адукацыйныя рады, якія будуць дапамагаць гміне вырашаць на месцы школьныя праблемы.

*— Нашых чытачоў цікавіць пытанне: як у новай сістэме асветы будзе выглядаць навучанне роднай мовы для нацыянальных меншасцей, у нашым выпадку, якое будзе месца беларускай мовы ў нашых школах?*

— Людзі ўсіх нацыянальнасцей, якія жывуць у нашым ваяводстве, маюць поўнае права мець свае школы, развіваць сваю культуру і мову, пазнаваць гісторыю свайго народа для ўласнага развіцця і для росквіту нашай супольнай Айчыны — Рэчы Паспалітай. На Беласточчыне навучанне беларускай мовы ў гэтым навучальным годзе адбывалася ў 45 школах. Вучылася тут 3265 вучняў. Гэта ў двух гарадах — Бельску і Гайнаўцы, і ў шэрагу гмін — Бельск, Боцькі, Чаромха, Чыжы, Дубічы-Царкоўныя, Гарадок, Гайнаўка, Нурэц-Станцыя, Орля, Вышкі і Заблудаў. Гэтая сетка школ забяспечвае на сёння ўнесеныя запатрабаванні.

*— Ці пан куратар лічыць, што неабавязковае навучанне роднай мовы, як гэта выглядае з беларускай мовай, дае нам роўныя з іншымі грамадзянамі Польшчы правы ў шырэнні сваёй асветы?*

— Польскія ўлады не могуць прымушаць грамадзян іншай нацыянальнасці вывучаць іх уласную мову. Мы можам стварыць ім толькі ўмовы для гэтага. А выхоўваннем нацыянальнай свядомасці ў сваіх суродзічаў няхай займаюцца самі беларусы. Кожная група ахвотных вывучаць беларускую мову будзе задаволена. Аб гэтым вырашае дырэктар школы. Калі ж колькасць ахвотных будзе меншая, чым прадугледжвае пастанова міністра адукацыі ад 21 снежня 1988 года (Дз. уж. МЭН № 11, паз. 69 ад 1988), дырэктар школы павінен у пісьмовай форме звярнуцца ў кураторыю. І няма падстаў на тое, каб просьба бацькоў не была задаволена.

(Працяг на стар. 5)



*Куратар асветы і выхавання ў Беластоку Пётр Літэрмус.*

## КОНКУРС „ХРОНІКА МЯСЦОВАСЦІ"

Кожны чалавек носіць у сваёй памяці гістарычны архіў. На працягу жыцця ён сутыкаецца з гістарычнымі фактамі, нярэдка з'яўляецца іх актыўным удзельнікам або сведкам. Не кожны мае магчымасць перадаць гэтыя факты шырэйшаму грамадству, сваім нашчадкам, наступным пакаленням. Адыходзячы з жыцця, ён забірае з сабою найбольшы свой скарб — памяць, у якой, як у адзіным і непаўторным архіве, зберагліся, быць можа, факты, якія гісторыкі прызналі б жамчужынамі. Ад нас, ад нашай свядомай волі, вытрымкі і працавітасці залежыць, ці здолеем зберагчы гэтыя жамчужыны, захаваць і прадоўжыць памяць нашых бацькоў і дзядоў. Дзякуючы іх памяці, да нас дайшлі праз стагоддзі гістарычная і нацыянальная свядомасць, культура, мова, рэлігія. Гэтым самым мы маральна абавязаны перад наступнымі пакаленнямі.

Галоўнае праўленне БГКТ разам з Канадскім таварыствам „Беларусь" аб'яўляюць конкурс на „Хроніку мясцовасці". Удзельнічаць у конкурсе могуць усе, хто пражывае ў этнічна беларускіх мясцовасцях (без увагі на ўзрост ці іншыя крытэрыі). Для пераможцаў конкурсу прадбачваюцца каштоўныя ўзнагароды.

Нельга змарнаваць шанцаў!

**Правілы конкурсу.**

1. Мэтай конкурсу з'яўляюцца:

а) зацікаўленне ўдзельнікаў, перш за ўсё моладзі, легендамі роднай мясцовасці, а разам з гэтым фармаванне пачуцця нацыянальнай гордасці,

б) стварэнне гістарычна матываванай карты прысутнасці беларусаў на Беласточчыне,

— падрыхтаванне карты Беласточчыны з арыгінальнымі назвамі мясцовасцяў, рэк, урочышчаў (экспанат у музей),

в) стварэнне архіву БГКТ і музея геаграфіі, этнаграфіі і гісторыі Беластоцкага краю.

2. Змест хронікі:

а) карта наваколля з геаграфічнымі назвамі і легендамі, звязанымі з імі,

б) гістарычная частка:

— самыя даўнія звесткі аб

(Працяг на стар. 2)

# ДОБРЫ ПАЧАТАК

Юрку Попку з Ляймена, што ў Нямеччыне, не трэба спецыяльна рэкамендаваць пры знаёмстве. Нягледзячы на сваю шматгадовую хваробу, стаў ён не толькі заснавальнікам у гэтым горадзе беларускага музея, але выдаў і перавыдаў шэраг прац, прысвечаных беларускай культуры. Зусім нядаўна пісаў пра яго Антось Міранович („Ніва", нумар 3(1758), ад 21 студзеня г.г.). Сёння хачу я звярнуць увагу на адну з ягоных кніжак, якая непасрэдна датычыць нас тут на Беласточчыне і беларусаў каталіцкага веравызнання на Беларусі, галоўным чынам, на Віленшчыне і Гродзеншчыне. Кніжка гэта прысвечана адносінам Каталіцкага касцёла да беларусаў-католікаў, у прыватнасці Рыма і самога папы.

А рэальнасць на Беласточчыне такая, што хоць пражывае на ёй у асноўным на Сакольшчыне, Дуброўшчыне, часткова таксама і ў Сувальскім ваяводстве больш 100 тысяч беларусаў каталіцкага веравызнання, дык і далей не могуць яны, ад вайны ўжо будзе 46 гадоў, карыстацца ў сваіх каталіцкіх святынях роднай беларускай мовай!

У чым праблема?

Згода на карыстанне беларускай мовай у каталіцкіх святынях была падпісана папам Лявонам XIII ужо 8 мая 1897 г. на просьбу беларускіх каталіцкіх святароў, у прыватнасці магілёўскага каталіцкага архіепіскапа Сымона. Пра пазітыўныя адносіны да гэтага пытання з боку папы Лявона XIII паведаміў архіепіскапа Казлоўскага папскі сакратар кардынал Рампола. І ўсё ж, нягледзячы на такі доўгі ад гэтага прыхільнага для беларусаў каталіцкага веравызнання рашэння час, сёння ў Беластоцкім краі няма ніводнага каталіцкага касцёла, у якім можна было б памаліцца на сваёй роднай беларускай мове.

У даваенны час на Беласточчыне існавалі беларускія каталіцкія касцёлы, у якіх служба адпраўлялася па-беларуску. І так, ад 1917 г. вікарыем у Карыціне былога Сакольскага павета быў вядомы беларускі паэт, стагоддзе з дня нараджэння якога святкуем у гэтым годзе, Казімір Сваяк (сапраўднае прозвішча Канстанцін Стаповіч — 1890-1926), прадстаўнік беларускага рамантызму. Казімір Сваяк не толькі гаварыў у касцёле ў Карыціне казанні па-беларуску, на якія прыходзілі нават праваслаўныя беларусы, але ў сваёй парафіі адчыняў беларускія школы, вёў у ёй асветніцкую працу. Ужо тады ягоныя творы друкаваліся ў беларускай каталіцкай перыёдыцы: у „Крыніцы", а затым „Хрысціянскай думцы". Ці парафія ў Карыціне памятае пра свайго выдатнага сына, ксяндза і паэта Казіміра Сваяка? Ці адзначыла, або адзначыць ягоны круглы юбілей — стагоддзе з дня нараджэння?..

Сваю душпастырскую працу ў якасці вікарыя пачынаў у Далістове былога Беластоцкага павета і іншы вядомы беларускі святар і пісьменнік Язэп Германовіч (пісаў пад псеўданімам Вінцук Адважны — 1890—1978). Затым беларускі ксёндз працаваў у Беластоку, потым зноў у Далістове, адкуль трапіў у Крыпна, Мсцібова, а ў 1919 г. у Вялікую Лапеніцу, у якой пісьменнік адкрыў беларускую школу.

На роднай беларускай мове казанні ў Трычоўцы, што на Беласточчыне, у 1928 г. гаварыў у касцёле святар Станіслаў Гляўкоўскі, у Рэпніках і Клявінаве — прэфект настаўніцкай семінарыі, ксёндз Рэшэць з Беластока, па-беларуску вялася катэхізацыя дзяцей з Ростаўтаў. І ўсё-такі, што стала на перашкодзе пасля вайны, каб працягваць высакародную місію беларускіх ксяндзоў?.. Чаму дагэтуль няма на Беласточчыне ніводнай беларускай каталіцкай святыні, хоць па сутнасці ўсе беларускія, бо ж знаходзяцца на тэрыторыі беларускай моўнай стыхіі?.. Чаму маўчыць у гэтай справе рымскі папа?..

На гэтыя і іншыя пытанні дае адказ кніжка Юркі Попкі. бо, як слушна сцвярджае аўтар, недахоп адказу таксама з'яўляецца адказам.

Кніжку, выданую выдавецтвам „Беларуская Праўда"*), адкрывае верш Янкі Купалы „А хто там ідзе?". У гэтым выданні змешчаны ён і на нямецкай мове ў перакладзе Элізабет Котмаер. Змест папярэджвае прадмова аўтара пад загалоўкам „Мая споведзь". Затым ідзе агляд беларускага царкоўнага жыцця на Беларусі і ў Беластоцкім краі. Потым — „Адкрыты ліст да папы Яна Паўла II (Караля Вайтылы)". Вельмі вымоўным з'яўляецца ліст славутага ўжо сёння беларускага каталіцкага святара, пробашча парафіі ў Вішневе на Беларусі Уладзіслава Чарняўскага да ўдзельнікаў Агульнапольскага семінара каталіцкага духавенства ў Лодзі ў 1987 г. У ім уся гісторыя Беларусі! Гаворачы пра прымусовую паланізацыю беларусаў-католікаў на Беларусі ў сённяшні час, айцец Уладзіслаў Чарняўскі, між іншым, піша: „Усё зло ідзе зверху, ад галавы. Відаць, там ляжыць прычына пачынанняў ксяндзоў цяпер на Беларусі. А чаму? Таму, што нават у „Пантыфікальным календары" напісана: „Пінск — Польшча". Што ж, колішняя Заходняя Беларусь — гэта надалей Усходнія Крэсы, іх трэба спаланізаваць! Падрыхтаваць пад акупацыю...".

Уся кніжка — гэта гісторыя змагання аўтара і беларусаў за беларускую мову ў каталіцкіх святынях Беластоцкага краю і Беларусі. Лісты ў гэтай справе, надрукаваныя на нямецкай мове, адрасаваны да выдатных еўрапейскіх палітыкаў і нямецкіх каталіцкіх біскупаў, а таксама кардынала Юзафа Глемпа, Леха Валэнсы і іншых вядомых асоб.

**Іван Кадлубоўскі**

*) Die zwei Gesichter des Papstes. Briefe an Papst Wojtyla von Juri Popko in bjelorussischer und deutscher Sprache. Dokumente in bjelorussischer und polnischer Sprache. 2. Auflage, ergänzt, Verlag: „Bjelorussische Wahrheit", Leimen 1988. ss. 54.

# „КАРЫСНАЯ" ПРАПАНОВА

Увесь свет мае клопаты з накопленымі ўжо прамысловымі адходамі, якія з году ў год павялічваюцца. Польшча таксама. Але, як краіна, якая здаўна мае цяжкасці з фінансаваннем інвестыцый утылізацыі розных адходаў ці хаця б іх складваннем, мы згаджаліся адыгрываць ролю сметніка, на які багацейшыя за нас прывозілі свае адходы ўзамен за дробныя інвестыцыі.

Цяпер усё часцей замежныя прапановы складваць у Польшчы прамысловыя адходы звязаны з магчымасцю атрымаць абсталяванне і ўтылізацыйную тэхналогію. Нядаўна такую „карысную" здзелку прапанаваў Вальтэр Франке з Заходняга Берліна.

Вось спадар Франке ўгледзеў непадалёк ад Аполя вялікі кар'ер, у якім калісьці здабывалі вапняк. Зараз у гэтым месцы складваюць попел з суседняй цеплавой электрастанцыі. Калі так, то чаму не складваць каля Аполя попелу з Берліна? Менавіта там восенню мінулага года ўзнікла праблема: куды дзяваць попелы з мясцовай цеплаэлектрастанцыі. Яе ўласнік можа прызначыць 1,5 — 2 мільёны марак на складванне 36 тысяч тон попелу ў год. У планах ён прадбачвае збудаваць завод, які перарабляць будзе гэты попел на гравій. У будучыні такі завод можна было б пабудаваць і ў Польшчы.

Але пакуль што ў яго іншая прапанова: пабудаваць каля Аполя печ для спальвання спецыяльных адходаў. Фінансавалася б яна заходнегерманскімі банкамі ўзамен за паслуговае спальванне спецыяльных адходаў з Заходняга Берліна і з Гесена. Пасля выплаты крэдытаў можна было б спальваць там і польскія спецыяльныя адходы.

Аднак на час выплочвання крэдытаў, на 8—10 гадоў спадар Франке прыгаварыў бы ваколіцу Аполя на забруджанне атмасферы шкоднымі хімічнымі рэчывамі, якія ўзнікаюць пры спальванні адходаў. Не нашых адходаў.

Свае ці чужыя ядахімікаты аднолькава шкодзяць. На шчасце, мы ўжо не згаджаемся падвяргаць нашае асяроддзе чужым шкодным уплывам. Адказ Міністэрства аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лясніцтва на прапанову спадара Франке быў кароткі: **не.**

**Карына Анджаеўская**
(„Monitor Środowiska")




**ЯНУСЬ МАЛЕЦ**

* ✲ *

Мне здасца раптам, што
не прымуць
Мае сумненні і трывогу,
З высакамернасцю адкінуць
Ад паэтычнага парога.

„Нам не патрэбны песімісты! —
Уладна крыкнуць змрочным
ротам. —
Мы робім справу аптымістаў".
І апякуць душу, як шротам.

А лес здзічэлы, лес без птушак,
Змярцвелай постаццю бярозы
Ім закрычыць адчайна ў душы,
Ды будзе позна,
вельмі позна...

* ✲ *

Я — дзіця складанейшага часу,
Мне не ўсё на гэтым свеце
зразумела.
Здасца, што стаю ў чарзе
да касы,
Каб узяць білет на пахаванне
цела.

Быццам бы, зусім не разумею,
Што маё — маё! — закрыюць
цела векам.
Ля труны раптоўна анямею
І шкада любога стане чалавека.

**ПЕРАСЦЯРОГА**

*У вянок светлай памяці*
*У. Караткевічу*

Сустрэўся вам
Хоць раз змярцвелы вецер?
Вы верыце,
Што дрэвы маюць нервы?
А бачылі,
Як кроў сцякае з вецця
У смецце
І бляшанкі з-пад кансерваў?

Спыніцеся
Ля могілак самотна,
Паслухайце:
Крыжы вядуць размову.
А бачыце,
Вунь там плывуць з балота
Дрыкганты*)
Над туманнасцю вясновай?

Не чуеце,
Як полымя шугае?
Не бачыце,
Як дзесь па-за сусветам
Загадкава
Планета дагарае,
Такая ж,
Як Зямля мая, планета?

Не смейцеся,
Не хмыльцеся ўсяведна!
Не рвіцеся
Бяздумна ў невядомасць.
Я ведаю:
У душах нашых бедна
Пакуль што
На сапраўдную свядомасць.

*) Дрыкганты — вымершая беларуска-польская парода коней.

## Бібліяграфічны кутočак

### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

Звяртаем увагу нашых бібліяфілаў на некаторыя выданні, якія будуць купляцца з торгаў на 72-м кракаўскім антыкварным аўкцыёне (22—24 мая 1990 г.). Торгі адбудуцца ў памяшканні Гарнізоннага клуба, вул. Бітвы пад Леніна № 1 у Кракаве.

**Каталог — частка 1.**

Poz. 172 — Dar Polski Białorusinom, Rosjanom i Ukraińcom na Tysiąclecie ich Chrztu Świętego, Londyn 1989. Cena wywoławcza 16 tys. zł.

Poz. 334 — Hedemann O., Dzisna i Druja magdeburskie miasta, Wilno 1934. C. w. 8 tys. zł.

Poz. 696 — Mościcki H., Wilno, Warszawa 1922. C. w. 2 tys. zł.

Poz. 760 — Ossendowski A., Puszcze Polskie, Londyn 1953. C. w. 12 tys. zł.

Poz. 1087 — Tokarz W., Wojna Polsko-Rosyjska 1830 i 1831 (z atlasem). Warszawa 1930. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 1105 — Tur L., Uniwersytet Wileński i jego znaczenie, Lwów 1903. C. w. 2 tys. zł.

Poz. 1116 — Unia na Litwie i na Białorusi, Memoriał przesłany jego świętobl. Piusowi IX, Paryż 1862. C. w. 600 zł.

Poz. 1248 — Kolankowski L., Kościół a Cerkiew w Galicyi wschodniej z mapą, Kraków 1909. C. w. 3 tys. zł.

**Каталог — частка 2.**

Poz. 60 — Dyakowski B., O dawnych łowach i dawnej zwierzynie, Warszawa 1955. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 76 — Gloger Z. — Geografia historyczna ziem dawnej Polski, Kraków 1900. C. w. 50 tys. zł.

Poz. 130 — Kubicki P., Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i ojczyzny w latach 1861—1915, Cz. 2, Dawna Litwa i Białoruś, T. I, Przedmowa, źródła i pomoce, Sandomierz 1936. C. w. 150 tys. zł.

Poz. 131 — To samo... T. II, Za sprawę ojczyzny kler świecki (A—O), Sandomierz 1936. C. w. 120 tys. zł.

Poz. 132 — To samo... T. III, Za sprawę ojczyzny kler świecki (P—Ż) i kler zakonny, Sandomierz 1936. C. w. 120 tys. zł.

Poz. 237 — Potocki J., Na wojnie i na łowach, Warszawa 1932. C. w. 14 tys. zł (m.in. wzmianki o polowaniach autora na Litwie i Białorusi).

Poz. 276 — Słotwiński A., Unia podlasko-chełmska od r. 1875—1885, Czaca 1893. C. w. 8 tys. zł.

Poz. 323 — To samo co pod poz. 1116 w części I katalogu. C. w. 6 tys. zł.

Poz. 334 — W.P.C., Podlasie i Ziemia Chełmska, Lwów 1914. C. w. 2 tys. zł.

Poz. 356 — Wysłouch S., Dawne drogi Polesia, Wilno 1937. C. w. 6 tys. zł.

Poz. 538 — Kalendarz Ziem Wschodnich na rok 1936, Warszawa 1935. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 539 — Rocznik Ziem Wschodnich i kalendarz na rok 1937, Warszawa 1936. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 540 — Rocznik Ziem Wschodnich 1938, Warszawa 1937. C. w. 20 tys. zł.

У аўкцыёне можна прыняць удзел пісьмова. У заказах кіраваных на адрас: Antykwariat Naukowy, Pl. Mariacki 1, 31-040 Kraków, трэба падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за выданне.

**Пётр Байко**

## Свойскія малюнкі

*Дубы ля гасцініцы „Іва“ ў Белавежы.*

*Мал. У. Петрука.*

## Чэслаў Мілаш... беларус?

У органе Дэмакратычнай партыі „Тыгоднік дэмакратычны“ (нумар 11 (1908), ад 18 сакавіка г.г.) змешчана даволі шырокае інтэрв'ю Анны Ленар з братам Чэслава Мілаша Андрэем Мілашам пад загалоўкам „Тайны Мілашавай сям'і“. Андрэй Мілаш — рэжысёр — заканчвае якраз мантаж многасерыйнага фільма, які быў зняты ў Берклі і называецца „Гутаркі з Чэславам Мілашам“. Гэта ўжо трэці фільм Андрэя Мілаша пра свайго брата (ранейшыя: „Сустрэча з Чэславам Мілашам“ і „Вяртанне непрысутнага“ ўзніклі ў 1980 і 1981 г.г.).

На пытанне Анны Ленар, звязанае з нацыянальнасцю Чэслава Мілаша („Пачнем можа з першай тайны. Ці Чэслаў Мілаш з'яўляецца ліцвіном, ці палякам?“), вось што адказаў на тое ягоны брат: „Мілашы — гэта такія самыя ліцвіны, як Міцкевіч, Гамбровіч, Віткацы, Ваньковіч, Голубеў, Ясеніца ці нават Пілсудскі. Брат (Чэслаў Мілаш — Ю.Д.) гаворыць аб сабе — я ліцвін польскай культуры і польскі паэт“.

Як вядома, усе вышэй успомненыя асобы былі беларускага паходжання, або беларусамі польскай культуры. Ува ўсіх іх было моцнае пачуццё сваёй няпольскасці. З гэтага вынікала б, што і Чэслаў Мілаш, як сам, дарэчы, гаворыць, з'яўляецца ліцвіном, але ўсяго толькі ў старым гістарычным значэнні гэтага слова, пад якім сёння „скрываецца“ прадстаўнік адной з дзвюх нацый: літоўскай або беларускай.

Мяркуючы на аснове таго, што Мілаш атаясамліваецца з Міцкевічам, ці Пілсудскім, а таксама на аснове таго, што ягоныя продкі дасканала валодалі старабеларускай мовай, аб чым далей гаворыцца ў інтэрв'ю, можна дайсці да высновы, што фактычна ў сапраўднасці з'яўляецца ён беларусам. Здзіўляе аднак небывалая жывучасць тэрміну **ліцвін**, які з часоў Вялікага княства Літоўскага пратрываў па сённяшні дзень, нягледзячы на магутнае адраджэнне беларускага народа ў канцы XIX і на пачатку XX ст. Як вядома, ліцвінамі і дагэтуль называюць сябе некаторыя беларусы, нават на нашай Беласточчыне. Але, з другога боку, яны свядомыя беларусы, ведаюць, што іх мова, якой яны карыстаюцца штодзённа, з'яўляецца беларускай, а ў сувязі з гэтым, без ніякага сумнення яны беларусы.

Варта адзначыць і тое, што Чэслаў Мілаш цікавіцца беларускай культурай, хоць сам вывучыў літоўскую мову, і заўсёды цвёрда стаяў у абароне беларусаў.

**Юрка Дрыгавіч**

## ЧОРНЫ ЦІ БЕЛЫ?

— Ты што, на ніякія выбары я не пайду! Не быў 4 чэрвеня, не хадзіў і раней. З нашай вёскі мала хто хадзіў. Калісь, як мусова было, адзін хто з хаты ішоў ды галасаваў за ўсю дружыну. Вядома, не трэба было нікога крэсліць. І так выбіралі таго, каго хацелі, ну, каго трэба было. То ж дурных ці праціўных у такі спісак не ўводзілі, толькі мандрэйшых ад нас, больш граматных.

— Які ж гэта быў выбар? Цяпер-то ведаем, каго выбіраем. Ведаеш жа Ёзіка — добры гаспадар, людскі чалавек, пагаварашчы. Умее ўсё залатвіць, не толькі для сябе. Я не проціў, каб ён быў у радзе.

— Ну, на яго то я даў бы свой голас. Людскі чалавек, граматны, усё як трэба. І дзяцей вывеў у людзі. Прыедзе Ірка з Варшавы, па-свойму не ўстыдаецца гаварыць, а вучоная ж, працуе ва універсітэце.

— І ніхто не прымушаў хадзіць яе на беларускую мову. Мае старэйшыя хадзілі, і ніякіх клопатаў з гэтым не было, хаця беларускі быў апошнім прадметам, і часам поцемку вярталіся дахаты. Нават не піснулі, што не хочуць вучыцца.

— Тады і не трэба было ніякіх пісулькаў, што хочаш ці не хочаш вучыць сваё дзіця беларускага.

— А малодшыя мне сказалі: „А навошта мне вучыцца? Лепш пабегаю з мячыкам! І так мне да нічога гэтая мова не спатрэбіцца!“ Даў Геніку ў скабы — і перастаў нэндзіць. Вучыўся ледзь на тройку, але дахадзіў да восьмага класа. А наймалодшага нават валамі не зацягнуў. Каб можна было, то і на матэматыку, і на геаграфію не хадзіў бы... Ну і не пайшоў. Бі ці не бі — калі не хоча, то з яго беларуса не зробіш!

— Але ён у цябе не сароміцца гаварыць па-свойму. А Толік — ад малых з дзецьмі толькі па-польску.

— А хай яго, так ён напольшчыў, што толькі язык дзецям скрывіў: „Зачынь окно“, „заплюшч очы“. Каб дзіця нават на галаве стала, то са сваім прозвішчам і гаворкай палякам не стане, а будзе невядома што.

— Га-га, а ён хлюбай па лапах біў, калі Юрка прыбягаў з вуліцы і па-просту гаварыў. А пасля празываў іншых „кацапамі“.

— Чаго ж хочаш, у некультурных бацькоў такія і дзеці будуць. Хіба што не ўдадуцца ў іх, і ні хлюба, ні калок не выб'юць з іх шчырасці да свайго.

— А ці яно цяпер усё гэта патрэбнае? Цяпер усе людзі адзін на аднаго падобнымі сталі. Не адрозніш чалавека з вёскі ад гарадскога, і ў хатах усё так сама, і ўсе адну праграму глядзяць, і дзеці вучацца таго ж у школе. Можа толькі, хто бяднейшы, хто багацейшы. І так усё на цэлым свеце. Чорны ці белы, усе аднолькавыя. У Амерыцы каго заб'юць ці ў Афрыцы — а я праз пяць мінут усё ведаю, хаця чалавека гэтага з твару не бачыў раней і нічога аб ім не чуў. Тут цэлы свет на вачах: усё варушыцца, не стрымаеш. А ты — якіясь выбары ў гміне! Выбраў аднаго ці пяцёх, ну і што яны зменяць? І так усё паплыве, як вада ў рэчцы... Выбірай, не выбірай...

— Ты, Яська, бачу — філосафам стаў. Папрывыкалі, што на свеце ёсць народы, жыццё, гісторыя, рэвалюцыі, а тут тутэйшыя залезлі ў карчы, каб толькі іх не чапалі. Абы бульбы да вясны хапіла, і больш нам не трэба. А хто за нас рашаць будзе? Колькі мы будзем чакаць?!

— Ат, раз'ехаўся! Пабачу, можа і пайду на гэтыя выбары. На Ёзіка голас свой дам. На ўсіх, каго ведаю.

**Запісаў Лукаш Баравіцкі**

## УРАЧЫСТАСЦЬ У ЛОНДАНЕ

25 сакавіка 1990 г. у Беларускай каталіцкай царкве св. св. Пятра і Паўла ў Лондане а гадзіне 10.30 у гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (у 1918 г.) была адслужана багаслужба за Беларусь і беларускі народ а. А. Надсонам і а. Маскалікам. Хорам дырыгаваў прыяцель беларусаў Гай Пікарда.

У змястоўнай пропаведзі а. Надсон прывітаў прысутных і прыгадаў аб гістарычнай важнасці гэтага дня. Гаварыў ён аб лёсе нашай нацыі, аб стане беларускай царквы на бацькаўшчыне і аб пакутах нашага народа ад чарнобыльскай аварыі.

Пасля багаслужбы ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны адбылася акадэмія, прысвечаная гадавіне БНР. Акадэмію адкрыў намеснік старшыні Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі Я. Саўкоўскі, які прывітаў гасцей і прысутных сяброў, а таксама зачытаў прывітальныя тэлеграмы ад беларускіх арганізацый з розных краін свету. Далей а. Надсон, які нядаўна быў на Беларусі, у Мінску і ў Гродне, расказаў пра сваё падарожжа. Людзі сардэчна яго віталі, але афіцыйная прэса пісала непрыхільна. Расказваў, як ён наведваў шпіталі, дзе ляжаць хворыя, пацярпеўшыя ад чарнобыльскай радыяцыі. Прысутнымі была сабраная сума грошай на чарнобыльскі фонд. Акадэмію закончыла адспяванне нашага нацыянальнага гімна.

Пасля акадэміі ў зале суседняга дома жанчыны прыгатавалі пачастунак, дзе госці пры чарцы віна сустрэліся і падзяліліся ўражаннямі.

С. Б.

## У ОЛЬШТЫНЕ

28 сакавіка г.г. ольштынскі ваявода Раман Пжэдвойскі сустрэўся з благачынным ольштынскай акругі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы а. Аляксандрам Шаломавым. Тэмай сустрэчы былі праблемы вернікаў Праваслаўнай царквы, якія пражываюць у Ольштынскім ваяводстве. Айцец Аляксандр Шаломаў сказаў, што праваслаўныя адабраюць дэмакратычныя перамены ў нашай краіне і маюць надзею, што ў новых умовах і іх жыццё стане лепшым. Ваявода падкрэсліў, што ўмовай лепшага жыцця будзе інтэграцыя грамадзян усіх веравызнанняў і нацыянальнасцей, насяляючых Ольштынскае ваяводства.

29 сакавіка гасцямі ольштынскага ваяводы былі прадстаўнікі мясцовага аддзела Польскай экуменічнай рады. Дэлегацыю ўзначальваў яго старшыня — святар Евангелічна-аўгсбургскага касцёла а. Францішак Дуда ў прысутнасці пробашча парафіі Польскакаталіцкага касцёла а. Мар'яна Бугайскага і нашага святара а. Аляксандра Шаломава. У час размовы былі закрануты пытанні экуменізацыі і дэмакратычных перамен у краіне і Еўропе.

Ваявода Раман Пжэдвойскі прыняў запрашэнне да ўдзелу ў экуменічнай багаслужбе.

Андрэй Гаўрылюк

# ТРЭБА ПАМАГЧЫ ГЭТЫМ МІЛЫМ ДЗЯЎЧАТАМ

7 красавіка ў Гайнаўцы былі створаны Беларускі выбарчы камітэт на Гайнаўскую гміну. У Гайнаўскай гміне два з паловай дзесяткі вёсак, яны будуць мець сваю гмінную — асобную ад гарадской — самаўправу. Час ужо быў самы апошні, бо выбары, як ведаем, адбудуцца 27 мая, а да 27 красавіка трэба зарэгістраваць у тэрытарыяльных выбарчых камісіях кандыдатаў у радных. Межы выбарчых акругаў будуць вядомыя 12 красавіка. Так што гаспадарам з Гайнаўшчыны застаюцца няпоўныя тры тыдні, каб сур'ёзна задумацца над кандыдатурамі і вылучыць іх. Старшынёю выбарчага камітэта стаў Міраслаў Койла.

Цяжар арганізавання сходу выпаў на долю Ірэны Парфянюк і Людмілы Кісляк — галоўнай ударнай сілы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гайнаўцы. Дзяўчаты справіліся са сваім заданнем выдатна. Даехалі (дзякуючы транспартным магчымасцям Пятра Скепкі) ва ўсе вёскі Гайнаўшчыны, наказалі людзям пра сход і вельмі разумна пакіравалі ім. „Калі б у нас у кожнай гміне былі такія Ірэна і Люда, то нам не трэба было б баяцца за лёс беларусаў і дэмакратыі на Беласточчыне", — сцвердзіў Віктар Стахвюк. Па-мойму, разумна сказана.



*Ударная сіла БДА ў Гайнаўцы: Людміла Кісляк, Ірэна Парфянюк, Пятро Скепка.*

Каардынатар Краёвай управы БДА выступіў перад прысутнымі з разгорнутай прамовай. З увагі на тое, што сіла прафесійных і жыццёвых абставінаў прымушае мяне быць хранікёрам беларускай прысутнасці на Беласточчыне, мне даводзілася чуць выступленні В. Стахвюка не раз і не два. Але кожны раз нанава чалавека прыгнятае маштабнасць і сінтэтычнасць высноваў і абагульненняў Каардынатара. Не дзіва, што пасля ягонага выступлення выбарчы камітэт стварыўся адразу. Ніякіх сумненняў не было. Так трэба.

Далей на парадку дня, калі выкарыстаць партыйную тэрміналогію, стаяў пункт аб стварэнні Тэрытарыяльнай рады БДА ў Гайнаўцы.

Лідэры БДА лічаць, што трэба страляць двух зайцоў адразу. Значыць, выйграць выбары і замацаваць адзіную беларускую палітычную структуру, якая на сённяшні дзень можа супрацьставіцца хвалі новага бальшавізму, што пагражае патопам толькі што ўзніклай аль-




### З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.

— 16 —

У гэтым часе было праведзена шэраг з'ездаў, на якіх абмяркоўваліся актуальныя справы і якія падкрэслівалі, што беларускі рух існуе і выкарыстоўвае ўмовы, створаныя рускай рэвалюцыяй. 23.III.1917 года ў Мінску быў праведзены з'езд Беларускай сацыялістычнай грамады, а ў маі гэтага ж года адбыўся з'езд беларускіх ксяндзоў. Два месяцы пазней быў скліканы першы з'езд беларускіх кааператываў.

Грамадскае і палітычнае жыццё праяўлялася ў існаванні Беларускай сацыялістычнай грамады з аддзеламі ў Пецярбургу, Маскве, Бабруйску, на Украіне, у Сібіры, у існаванні Беларускага народнага камітэта ў Мінску, у існаванні Беларускай народнай грамады ў Мінску, Магілёве, Пецярбургу, Маскве і ў дзейнасці шматлікіх кааператываў.

Беларускі народны камітэт стараўся стварыць у Мінску з усіх арганізацый нейкае адно прадстаўніцтва, якое прадстаўляла б беларускі рух навонкі. З гэтай мэтай стараўся ён склікаць з'езд. З'езд такі быў праведзены летам у Мінску, на якім была створана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый, мэты якой былі акрэслены досыць невыразна. У кожным выпадку, быў гэта першы крок у напрамку лучнасці паміж паасобнымі арганізацыямі і крок у напрамку стварэння органа, які б меў характар прадстаўніцтва.

Цэнтральная рада беларускіх арганізацый на сваіх сходах гэтай ідэі больш выразна не акрэсліла.

Ад 5 да 11 лістапада 1917 года быў праведзены з'езд вайскоўцаў-беларусаў з Заходняга фронту, на якім была створана Цэнтральная вайсковая беларуская рада. Старшынёй гэтай рады быў выбраны Сымон Рак-Міхайлоўскі, намеснікамі — Вячаслаў Адамовіч і Ярашэвіч. Мэтай Цэнтральнай беларускай вайсковай рады было арганізаванне беларускага войска. У сувязі з тым, што Цэнтральная беларуская вайсковая рада, як аб гэтым сведчыць яе назва, мела ўзяць у свае рукі ўсе вайсковыя справы і прадстаўляць вайсковыя рады паасобных франтоў, былі скліканы ў перыяд 3—8 снежня 1917 г. вайсковыя з'езды франтоў: паўночнага — у Віцебску, паўднёвага — у Кіеве, румынскага — у Адэсе.

Названыя з'езды, а таксама з'езд арганізацыі беларускіх бежанцаў, які быў скліканы Беларускай народнай грамадой, падтрымаў думку аб стварэнні адной найвышэйшай арганізацыі, якая займалася б цэласцю спраў беларускага народа.

З'езды гэтыя стаялі яшчэ на грунце сувязі з Расіяй.

У Мінску ўзнікла Беларуская вялікая рада, у склад якой уваходзілі прадстаўнікі ўсіх існуючых беларускіх арганізацый. Цэнтральная беларуская вайсковая рада была аўтаномнай часткай Вялікай рады.

Сляды дзейнасці Вялікай рады досыць непрыкметныя. Мела яна, праўдападобна, многа добрай волі і шырокія планы, каб узяць уладу ў свае рукі. Аднак не мела яна адпаведна цвёрдай волі для таго, каб зрабіць нешта вялікае. Вялікая рада праводзіла сходы, а сапраўдная ўлада ў краіне знаходзілася ў руках Рэвалюцыйнага камітэта, які дзейнічаў як орган Часовага рэвалюцыйнага ўрада.

А ў гэтым часе ў кастрычніку 1917 года ўпаў урад Керанскага і да ўлады дайшлі бальшавікі. Армія канчаткова разлажылася. Расія ўпадала, а існуючая сістэма замянялася ў разваліны, на якіх стаялі важакі новай сіс-

**ЗОРКА**
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ю. Сулейман

## ВЯСНА

У полымі кветак
Цябе я пазнаў,
Мне шчокі аблашчыў
Твой ветрык,
Вясна.

Святочна і лёгка
Аблокі плывуць.
І ярка, як неба,
Пралескі цвітуць.

Пайшла ля дарогі
Травіца у рух.
Задумаўся,
Слухае цішу пастух.

І птушкі спрабую...
Свае галасы.
Ах, колькі навока...
Вясёлай красы.

Вясна! Я прасіў цябе:
Зноўку прыйдзі.
Я кветкі і дрэвы
З табой пасадзіў.

А потым у садзе
Ствалы пабяліў.
І птушкі шпакоўню маю
Абжылі.

Вітаю цябе,
Дарагая вясна.
У полымі кветак
Цябе я пазнаў.

Пераклаў
Сяргей Панізнік



### ЦВІЦІ, НАШ САД!

Сягоння дзень такі вясёлы:
Упершыню наш сад зацвіў!
І ўюцца ўжо, і звоняць пчолы
Ля белых яблынь, вішань, сліў.

Хоць мала дрэўцы выйшлі ўгору
І станам тонкія яшчэ,
Ад іх прывабнага ўбору
Не адарваць ніяк вачэй.

Ніл Гілевіч

Фота Я. Чэрнякевіч

Васіль Хомчанка

## ЛАВАЧКА

Саша з Толікам зрабілі лавачку. Добрую, са спінкай. Паставілі яе ў халадку пад ліпай, паселі і сядзяць.

Вось так сядзяць яны дзесяць хвілін, дваццаць.

З дому выйшаў сусед дзед Андрэй. Убачыў лавачку, здзівіўся: яшчэ раніцай нічога не было, а цяпер лавачка стаіць.

Хлопчыкі пасунуліся.

— Калі ласка, сядайце, — сказалі дзеду Андрэю. — Гэтую лавачку мы зрабілі.

Цяпер сядзяць утрох. Дзед хваліць лавачку і хлопчыкаў. Добра, кажа, ў цяньку пасядзець.

З трэцяга пад'езда выйшаў яшчэ адзін дзед.

— Хадзі, Іван, сюды, — паклікаў дзед Андрэй.

Падыйшоў дзед Іван і спытаў:

— Гэта ты, Андрэй, зрабіў лавачку?

— Не, мы зрабілі, — пахваліўся Саша. — Наша з Толікам лавачка.

Саша ўстаў і даў месца дзеду Івану. Потым Толік саступіў месца бабулі, якая падышла да іх.

Хлопчыкі стаяць, а два дзяды і бабуля сядзяць на іхняй лавачцы.

— Няхай пасядзяць, — сказаў Толік Сашу. — Паспеем насядзецца.

Яны пагутарылі ў двары, пабегалі па вуліцы, вярнуліся, а на лавачцы сядзяць тры бабулі. Схадзілі ў кіно, паабедалі, выйшлі на двор — зноў лаўка занятая. Нейкі дзядзька і цётка з дзіцём селі. Так у той дзень хлопчыкі і не дачакаліся, калі можна будзе пасядзець на сва-

(Працяг на стар. 10)

# АДДАЙ ТОЕ, ШТО ДОМА НЕ ПАКІНУЎ

### БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

(Пачатак у папярэднім нумары)

Пайшоў Янка ў той бок, куды качкі паляцелі, і неўзабаве падышоў да маёнтка. Пастукаў у вароты.

— Чаго табе трэба? — пытаюцца слугі.

— Гаспадара хачу бачыць.

Выйшаў гаспадар — тоўсты пан у дарагім заморскім адзенні:

— Што скажаш?

— Ды вось, — кажа Янка, — шукаю свайго гаспадара.

— Якога?

— Таго, каму мяне бацька запрадаў, калі я яшчэ толькі на свет нарадзіўся.

— Дык гэта я твой гаспадар.

— Выбачай, панок, — кажа Янка, — а ці маеш ты распіску майго бацькі?

— Маю, а як жа.

— То вярні яе, пане, мне, бо мой бацька ўсё нудзіцца і плача, што так нядобра выйшла. Я занясу яму, і ён супакоіцца.

— Бач, які порсткі! — смяецца пан. — Спярша ты ў мяне прыгон адслужы, тады і вярну. А не захочаш служыць — скуру здзяру.

— То давай работу, — кажа Янка, — буду служыць. Рабіць мне не прывыкаць.

Пан дастаў з кішэні напарстак, падаў Янку:

— Гэтым напарсткам вычарпай да раніцы маё возера за маёнткам, рыбу выберы, а дно жоўтым пяском пасып. Работа няцяжкая.

Пайшоў Янка да возера, пачаў напарсткам ваду вычэрпваць. Чэрпаў, чэрпаў да вечара, змарыўся, а знаку ніякага. Заплакаў ён ад жалю і пайшоў шукаць Касю, каб параіцца, што рабіць.

Прыйшоў на двор, пахадзіў — нікога не відаць. Зайшоў так аж на самы канец двара. Бачыць — стаіць адзінокая будыніна: хатка — не хатка, хляўчук — не хляўчук.... Падышоў ён да хаткі, аж чуе, кліча яго праз акенца знаёмы голас:

— Гэй, Янка! Ты, бачу, пра мяне зусім забыўся.

Глянуў ён у акенца, а там Кася стаіць!

Увайшоў Янка ў хатку, прывітаўся і расказаў, якую нялюдскую яму работу даў яе бацька.

Дзяўчына кажа:

— Нічога, раніца за вечар мудранейшая. Кладзіся спаць, а я што-небудзь прыдумаю.

Паслухаў Янка дзяўчыну і лёг спаць.

У поўнач выйшла Кася на ганак, махнула чароўным пруткам, і адразу з'явіліся да яе трыццаць хлапцоў-малайцоў — адзін у адзін.

— Што загадаеш, паненка?

— Вычарпайце да раніцы возера, рыбу выберце, а дно жоўтым пяском пасыпце!

— Слухаем! — адказалі хлапцы-малайцы і памчаліся рабіць сваю работу.

Назаўтра пабудзіла дзяўчына Янку.

— Ідзі, — кажа, — далажы бацьку, што ўсё зроблена. Толькі не прызнавайся, што я табе дапамагала: скажы, сам усё зрабіў.

Пайшоў Янка, далажыў пану. Той паглядзеў — праўда, што ўсё зроблена, як ён загадаў! І работа чыстая — ніякай хібы не знойдзеш.

— Маладзец! — пахваліў пан. — Работнік ты, як бачу, нядрэнны. Калі так будзеш старацца, дык я табе і распіску аддам, і дачку замуж выдам. У мяне іх дванаццаць, выбярэш сабе любую, якая спадабаецца. Толькі вось бяда: няма ў мяне асобнага палаца для цябе з маладою жонкаю. Але ты, бачу, хлопец працавіты. Дык вось табе работа: збудуй за ноч такі палац, каб было ў ім гэтулькі пакояў, колькі дзён у годзе, каб столь ззяла, як неба, а на ёй свяцілі сонца, месяц і зоры, каб вакол палаца працякала рака, а на ёй ляжаў мост — залатая масніцына, сярэбраная масніцына, каб над мостам вісела вясёлка і ўпіралася канцамі ў ваду. Адным словам, каб не брыдка было самому паглядзець і людзям паказаць. Збудуеш такі палац — аддам табе распіску і дачку ў прыдачу, не збудуеш — скуру зніму з жывога. А цяпер ідзі сабе.

Апусціў Янка галаву. „Вось каб ты лопнуў, нячыстая сіла! — падумаў ён сам сабе. — Што далей, то цяжэйшыя задачы дае.

(Працяг на стар. 10)



П'еса „Дзяўчынка Біз" у пастаноўцы школьнага тэатра з Ласінкі. Фота Яніны Чэрнякевіч.

# АДДАЙ ТОЕ, ШТО ДОМА НЕ ПАКІНУЎ

(Працяг са стар. 9)

Дзе ж мне зрабіць такі палац? Відаць, трэба зноў да Касі ісці — можа, яна дапаможа?"

Прыйшоў ён да дзяўчыны і расказаў ёй, якую новую работу даў яму пан-вядзьмар.

— Работа гэтая і праўда цяжэйшая за першую, — кажа Кася, — але што-небудзь прыдумаем. Ідзі ты пакуль што пахадзі па двары, быццам месца для палаца выбіраеш, а як сцямнее — назад сюды варочайся.

Так ён і зрабіў. Пахадзіў па двары, а як сцямнела, вярнуўся ў хатку. Павячэраў і пытаецца ў Касі:

—Чаму гэта ўсе твае сёстры жывуць з маткаю ў палацы, а ты ў гэтай хатцы наводшыбе?

— Таму, што ў мяне не маці, а мачыха.

— А ведаеш, Кася, — сказаў Янка, — бацька твой дакляраваў аддаць мне за жонку сваю дачку, калі пабудую палац...

Дык я папрашу, каб ён аддаў мне цябе.

Спахмурнела Кася, галавою паківала:

— Не ведаеш ты, любы, майго бацькі! Ён так не аддасць мяне, а паставіць усіх нас у рад і загадае табе выбіраць, а ты мяне не пазнаеш...

— Пазнаю! — кажа Янка. — Як гэта, каб я цябе не пазнаў?

— Наўрад! — уздыхнула Кася. — Усе мы сёстры, як адна — волас у волас, голас у голас. Але калі вельмі хочаш выбраць мяне, дык запомні прыкмету: у маіх валасах будзе белая кветачка. А калі другі раз загадае бацька выбіраць, дык над маёю галавою будзе муха лятаць, а трэці — будзе завязана зялёная ніточка на правым мезеным пальцы. Запомніш?

— Дзіва што! Я хачу толькі цябе выбраць і нікога другога.

— А цяпер, — кажа дзяўчына, — кладзіся спаць, бо ўжо ноч на дварэ. (Працяг будзе)

(Працяг са стар. 9)

## ЛАВАЧКА

ёй лавачцы. І на другі, і на трэці дзень тое ж самае — сядзяць людзі на ёй, а ўбачаць Сашу і Толіка — хваляць:

— Малайцы, хлопцы. Такую добрую лавачку зрабілі.

Кожнаму хочацца пасядзець на лавачцы, а яна невялікая, толькі на тры чалавекі.

І парашылі Саша з Толікам зрабіць яшчэ адну лавачку, вялікую, каб усім хапіла месца. Узялі пілку, сякеру, цвікі, прынеслі дошкі.

— Тук! Тук! — стукае іх малаток.

— Памагайце, малыя, — запрашаюць хлопчыкі сяброў, — мы робім другую лавачку. Большую. І для старых, і для вас, малых.

## ГУЗІК

Прыйшла Надзя са школы і сказала:

— Бабуля, у мяне гузік адарваўся. Прышый.

— Нясі, унучачка, іголку з ніткай.

Прынесла Надзя іголку і ніткі, падала бабулі.

— Вочы мае дрэнна бачаць, — сказала бабуля. — Зацягні нітку ў іголку.

Надзя зацягнула.

— А цяпер вазьмі гузік, прыкладзі яго да паліто, вось сюды. Укалі іголку ў дзірачку. Так, правільна. Цяпер у другую.

Надзя рабіла так, як гаварыла бабуля, і не заўважыла, як прышыла гузік. Потым ужо сама агледзела ўсе гузікі на сваім паліто і сукенках. Дзе слаба трымаліся, падмацавала.

— Можа, і табе, бабуля, трэба дзе гузік прышыць?

Знайшоўся такі гузік на ватоўцы — матляўся на адной ніткі. Надзя адарвала яго зусім і прышыла нанава.

— Дзякуй табе, бабуля, — з усмешкай сказала Надзя.

— За што дзякуй? Ты ж сама ўсё зрабіла.

— А за навуку.

## ХЛЕБ

— Дзед, — пытае ўнук, — куды ехаць збіраешся?

— Поле араць.

— А навошта яго араць?

— Пасею на ім жыта. Калі вырасце, сажну, змалачу, хлеба напяку. А ад хлеба сіла будзе.

— А для чаго табе, старому, сіла?

— Каб за плугам хадзіць, поле араць, жыта сеяць, малаціць, хлеба свайго мець багата.

— Няўжо ты, дзед, адзін увесь хлеб з'ясі?

— Ты, унучак, паможаш.

— Ну тады і мяне бяры з сабой у поле. Памагаць табе буду.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, вул. Карбышэва, 3, кв. 20. Каспаровіч Олі (5 клас).

* * *

БССР, 220113, г. Мінск, вул. Якуба Коласа, 48, кв. 23. Шчарбацюку Алёшу (5 клас).

* * *

БССР, 220115, г. Мінск-115, зав. Каржанеўскага, 10, кв. 227. Наташы Зюзянюк (6 клас).

* * *

БССР, 220115, г. Мінск-115, зав. Каржанеўскага, 10, кв. 221. Тані Малькевіч (6 клас).

* * *

БССР, 220089, г. Мінск-89, вул. Грушкоўская, 131, кв. 25. Святлане Лебедзевай (7 клас).

* * *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Дзекабрыстаў, 18, кв. 6. Вераніцы Барсук (7 клас).

* * *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Дзекабрыстаў, 18, кв. 5. Людзе Бадычык (7 клас).



## Пішуць школьнікі

### З ГІСТОРЫІ ПАЖАРНАЙ АХОВЫ Ў ДАШАХ

**Расказ дзядзькі Цімоха**

У 1926 годзе ў Дашах арганізавалася, як тады пісалі ў газетах, агнёвая стража.

Арганізавана было паляванне на дзікую звярыну. За продаж яе людзі ў вёсцы купілі ручную помпу, бочкавоз, два гумовыя шлангі з генератарамі. Пабудавалі драўляную рамізу, накрылі яе саломай.

Першым камендантам пажарнікаў быў Андрэй Радчук. Наш дзядзька Цімох уступіў у стражу пятнаццацігадовым хлопцам. Ад таго часу па сённяшні дзень ён з'яўляецца актыўным пажарнікам.

Дзядзька Цімох успамінае, што на пажар ездзілі спачатку жалезнякамі, пазней ужо трактарам, а цяпер — пажарнай машынай. Аб пажары паведамлялі, б'ючы нечым у жалезнае кола. Пажары здараліся вельмі часта. Вёскі былі драўляныя, пад саламянымі стрэхамі. А здаралася, што сусед па злосці падпальваў суседа.

У 1973 годзе жыхары вёскі пабудавалі новую рамізу. Ёсць у ёй месца на пажарную машыну. За яе адказвае цяпер Аляксандр Евюк. Сігнал пажарнай сірэны чуваць цяпер на некалькі кіламетраў. Пажарнікі, калі пачуюць гук сірэны, кідаюць усё і бягуць у рамізу. Няма пры гэтым ніякай панікі, без слоў разумеюць адзін другога. Некалькі хвілін — і пажарная машына з пажарнікамі імчыць на ратунак.

Найбольш актыўнымі пажарнікамі ў Дашах (некаторыя ўжо не жывуць), з'яўляюцца Аляксандр Внучко, Уладзімір Марозаў, Уладзімір Дуда, Аляксей Марковіч, Аляксандр Евюк, камендант Васіль Маркевіч і іншыя.

Дзядзьку Цімоху ўжо 60 гадоў, здароўе ў яго слабое. За сваю працу ў пажарнай стражы ён атрымаў шмат дзяржаўных і прафесіянальных адзначэнняў.

Сёння пажарная раміза — гэта культурны цэнтр у вёсцы. Тут адбываюцца вясковыя сходы і розныя ўрачыстасці.

Запісалі вучні 7 класа школы ў Дашах.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Замалюй палі азначаныя кропкамі шэрым колерам, крыжыкамі — жоўтым, крэскамі — фіялетавым, трохвугольнічкамі — зялёным, а кружочкамі — блакітным. Прыгожа?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка"

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### БЕЛАРУСКІЯ МАНКУРТЫ

*Музыка Зміграка Яўтуховіча*
*Словы Леаніда Пранчака*

Наша памяць ахутана дымам.
Нашы сцежкі — на раздарожжы.
Лепей ведаем помнікі Рыма,
Чым гісторыю роднай Каложы.

Пазіраем пустымі вачыма.
Коле кволыя пальцы шыпшына.
Мы не ведаем слова Радзіма.
Мы забыліся слова Айчына.

*Прыпеў:*

Мы беспамяцтва заложнікі,
Махляры, шалапуты.
Бюракраты і безбожнікі —
Беларускія манкурты.

Не прыносіць каханне палёгкі.
Ад віна не праходзіць знямога.
І цяжэюць упартыя крокі
Ды з-пад ног уцякае дарога...
у бездань дарога...

*Прыпеў.*

Забыцця беспрагладная замець.
Як адчуць неспазнаную роднасць?
Як вярнуць нам спрадвечную памяць?
Як набыць нам нязнаную годнасць?

Хутка, у рытме «новай хвалі»

## НІЎКА

— Афіцыянт! У маім супе знаходзіцца жырандоль!

## АФАРЫЗМЫ

Любы мірны шлях правільны, калі вядзе ён да абагачэння народа.

*

Цэзій, плутоній і стронцый зрабілі чорную справу не толькі ў нашай роднай старонцы.

*

Без людзей і чорту няма работы.

*

Не толькі Мінск, але і другія нашы гарады сталі падобны тым на Маскву, ці на Горкі, што ў іх не чутно беларускай гаворкі.

*

Адны зямлю ўпрыгожваюць, а другія яе паганяць.

*

Лёс можа пасмяяцца над кожным з нас, але адпомсціць яму нічым немагчыма.

*

Можа быць і родны чалавек — нягодны, але мова родная заўсёды прыгодная.

**Міхась Лiтвінчык**

## ВЫСУНУЎСЯ

Неяк сабраліся з раніцы супрацоўнікі аддзела. Нават машыністка Лілечка з'явілася своечасова. На стале ў Міхаіла Іванавіча — кветкі. Адным словам, абставіны ўрачыстыя, настрой прыўзняты. Быў тут і Пападаеў, новенькі. Трэба ж, толькі пачаў ён у нас працаваць — і адразу на ўрачыстасць трапіў! Гэты Пападаеў і пытаецца, што, маўляў, за свята і з якой нагоды. Мы яму кажам, што нашага паважанага Міхаіла Іванавіча праводзім адпачываць.

Тут увайшоў сам Міхаіл Іванавіч. Усе запляскалі ў ладкі. І лезе наперад гэты самы Пападаеў, увесь дрыжыць і кажа:

— Д-дазвольце, я скажу...

— Давай, кажы! — усім спадабалася ягоная смеласць.

— Дарагі Міхаіл Іванавіч! Адпачывайце спакойна і за нас не турбуйцеся, мы добра папрацуем!

Усе згодна заківалі галовамі. Падбадзёраны Пападаеў узвысіў голас:

— Шкада толькі, што нам ужо не давядзецца працаваць пад вашым кіраўніцтвам, дарагі Міхаіл Іванавіч!

Раптам зрабілася ціха. І ў напружанай цішыні Пападаеў залямантаваў:

— І хоць з сённяшняга дня вы на пенсіі, душой вы заўсёды будзеце з намі!

—Ой, — выдыхнула машыністка Лілечка. Бразнула аб падлогу люстэрка.

— Так, — сказаў Міхаіл Іванавіч. У голасе яго чуліся металічныя ноткі.

Ён выйшаў, і дзверы грукнулі, як гармата.

— Ты што нарабіў, дурань! — прасіпеў у твар Пападаеву бухгалтар Гушка. — Якая яшчэ пенсія! Мы ж яго ў Крым праводзім, адпачываць!..

**Генадзь Ануфрыеў**
(„Вожык" № 21(1989)

Сакратарка дырэктара прыходзіць у аддзел кадраў і плача.
— Што такое здарылася? — пытаецца загадчыца аддзела.
— Дырэктар звальняе мяне з работы...
— Гэта немагчыма, я напэўна аб гэтым ведала б.
— Так, але чаму з яго кабінета выносяць канапу?

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі:
— Ведаеш, калі мы кахаемся ў ложку, то мой муж увесь час пасвіствае.
— Табе то добра, бо мой толькі пасвіствае.

* * *

Два мужчыны размаўляюць пры чарцы:
— Ці ты ведаеш, якая розніца паміж тваёй жонкай і маёй?
— Не, не ведаю.
— Бачыш, а я ведаю!

* * *

Дзве сяброўкі размаўляюць аб мужах-матросах:
— Ці ты ў ложку размаўляеш са сваім мужам?
— Так, калі пазвоніць...

### Я ТАК САМА, ЯК МАМА

Матуля павучае Ваню:
— Калі ілгаць ты перастанеш?
Хлусіш у школе, хлусіш дома,
Праўды не скажаш ты нікому.

Раптам угледзела суседку
І просіць сына: — Скажы,
дзетка,
Што тваёй дарагое маці
Даўным-даўно няма ўжо ў хаце.

**Віктар Швед**


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok. skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1990 r. upływa 20 maja 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy),
- rezerwacja w tzw teczkach (we wszystkich kioskach)
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 320/90 r. U-3.